# Дняпроўская СТРОМА



№ 23 ліпень 2013 г.

Выдаецца з мая 2012 г.

ЛІТАРАТУРНА - МАСТАЦКІ І ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ

МАГІЛЁЎСКАГА АДДЗЯЛЕННЯ ГРАМАДСКАГА АБ'ЯДНАННЯ «САЮЗ БЕЛАРУСКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ»





## Шосты з'езд беларусаў свету

20 гадоў таму, у 1993 г., адбыўся Першы з'езд беларусаў свету, на які ўпершыню пасля доўгіх дзесяцігоддзяў расстання з радзімай прыехалі беларусы з далёкага замежжа. Той з'езд сабраў больш за 1200 дэлегатаў і гасцей. У гэты юбілейны год у Мінску 24 - 24 ліпеня адбыўся Шосты з'езд беларусаў свету. Як і папярэднія, з'езд быў, арганізаваны Згуртаваннем беларусаў свету "Бацькаўшчына". Усяго было вылучана 330 дэлегатаў з 22 краін замежжа і Беларусі. У складзе дэлегацыі ад Магілёўскай вобласці прыехалі гісторыкі Аляксандр Агееў і Ігар Пушкін, пісьменнік Мікола Яцкоў, грамадскія дзеячы Віталь Васількоў, Зміцер Салаўёў, Надзея Бацілава і Юрый Стукалаў.

Тэмай з'езду стала "Беларуская нацыя ва ўмовах глабалізацыі: выклікі і магчымасці".

У з'ездзе бралі ўдзел беларусы розных краін, розных пакаленняў і розных поглядаў. Прадстаўнікі чыноўніцтва, бізнесу, дзеячы навукі і культуры выступалі з дакладамі і ўдзельнічалі ў дыскусіях. З'езд даў ім усім магчымасць сустрэцца і агучыць сваё меркаванне па розных тэмах, якія іх хвалююць. Цягам двух дзён удзельнікі з'езду абмяркоўвалі свае праблемы, дзяліліся поспехамі, выказвалі сваё бачанне адносна далейшага развіцця супрацы з беларускім замежжам.

Вельмі востра чарговы раз гучала праблема мовы, праблема нацыянальнай ідэнтычнасці. Панавала аднадушша, што беларуская мова – аснова нацыі.




Прадстаўнікі Магілёўшчыны Мікола Яцкоў, Аляксандр Агееў, Віталь Васількоў, Ігар Пушкін, Зміцер Салаўёў



Спявак Віктар Скарабагатаў і пісьменнік Лявон Баршчэўскі



Мікола Яцкоў і Генадзь Бураўкін



Беларускія паэткі Тацццяна Беланогая (Беларусь) і Іна Снарская (Украіна)

Паэт Уладзімір Някляеў



Алеся Кіпель прывезла з ЗША шчырыя вітанні ад свайго бацькі Вітаўта Кіпеля



Кіраўнік беларускай бібліятэкі "Камунікат" Яраслаў Іванюк і журналістка Наталля Герасімюк (Беласток, Польшча)



Пісьменніца Алеся Башарымава (Беларусь) вітаецца з Фёдарам Нюнькай (Літва)

Таксама ў межах з'езду прайшла прэзэнтацыя культурных праектаў, у тым ліку кніг, выдадзеных прадстаўнікамі беларускай дыяспары. Спецыяльна да 20-годдзя з правядзення з'езду была выдадзеная кніга Ганны Сурмач "Беларусь без межаў".

Таксама адбыліся прэзентацыі электроннай бібліятэкі "Камунікат". Агулам было прэзентавана 10 праектаў і кніг, над якімі працавалі беларусы замежжа і якія з пэўнасцю зацікавяць беларусаў як на Радзіме, так і за яе межамі.

Галоўным вынікам працы з'езду стала прыняцце дакументаў. Перш за ўсё, гэта зварот аб стварэнні заканадаўчай і нарматыўна-прававой асновы для ўзаемадзеяння з беларусамі замежжа, а таксама праграма "Беларусы замежжа" (2013–2017). Усе дэлегаты з'езду пагадзіліся з рэзалюцыямі "Аб беларускай мове" і "Аб захаванні гістарычна-культурнай спадчыны".

Пасля прыняцця выніковых дакументаў былі праведзены выбары кіруючых органаў МГА "ЗБС "Бацькаўшчына". Кіраўніком Згуртавання была пераабраная Алена Макоўская, старшынёй Рады – Ніна Шыдлоўская. Намеснікамі старшыні сталі Валерый Герасімаў і Барыс Стук. Таксама быў абраны новы склад Вялікай Рады, у якую ўвайшлі 100 чалавек, у тым ліку і прадстаўнік Магілёўшчыны Мікола Яцкоў.

Напрыканцы працы з'езду прайшло першае паседжанне новаабранай Вялікай Рады.

*Паводле http://zbsb.org/*

*Фотаздымкі Надзеі БАЦІЛАВАЙ.*

## Базылю Камарову 60 !



12 ліпеня 2013 года вядомы далёка за межамі Беларусі магілёўскі мастак Базыль КАМАРОЎ адзначыў сваё 60-годдзе

*Віншуем!*



**Васіль АЎРАМЕНКА:**

*"... Базыль Камароў у сваіх выявах старога Магілёва, сьвядома ці незнарок, увасабляе мару беларуса аб "вечным горадзе", які б не разбураўся дазваньня ў кожным стагоддзі ці з прыходам кожнай новай улады, у якім бы мірна жылі ў суладзьдзі між сабой і ў гармоніі з навакольлем месьцічы-беларусы. Мара, бадай, фантастычная і недасяжная, як у прынцыпе і любы ідэал, але ж прыгожая і звабная для рамантыкаў ды маладых. А хіба варта пазбаўляць людзей мары і будучыні? Усе маюць права верыць у нешта лепшае, чым было ўчора, ці ў нешта прыгажэйшае, чым маюць сёньня. Таму, на мой погляд, Базыль Камароў ёсьць ня толькі мастаком-рэаніматарам нашай мінуўшчыны, але і творцам будучыні. А мастацтва, якое дае надзею ці імкнецца ў будучыню, заўсёды будзе актуальным".*

(Заканчэнне на с.4-5)

## Нарадзіліся ў ліпені

► 1 ліпеня 1911 г. у в. Стары Дзедзін Клімавіцкага раёна нарадзіўся Павел Іванавіч ПРУДНІКАЎ – паэт, празаік, нарысіст.

► 7 ліпеня 1869 г. у в.Дубейкава Мсціслаўскага павета Магілёўскай губерніі нарадзіўся Лявон Іванавіч ВІТАН-ДУБЕЙКАЎСКІ – паэт, архітэктар.

► 8 (21) ліпеня 1905 г. у м.Глуск нарадзіўся Янка (Іван Іванавіч) БОБРЫК – паэт.

► 16 ліпеня 1886 г. у м.Глуск нарадзілася Ядвіга Уладзіславаўна МАШЫНСКАЯ – ГЕЛЬТМАН – паэтэса, перакладчык, педагог.

► 20 ліпеня 1924 г. у в. Лешчанка Кіраўскага раёна нарадзіўся Мікалай Піліпавіч ЛУК'ЯНАЎ – празаік.

► 22 ліпеня 1932 г. у в.Халмы Краснапольскага раёна нарадзіўся Леанід Фёдаравіч ЯЎМЕНАЎ – паэт, філосаф.

► 25 ліпеня 1840 г. у в.Калацічы Бабруйскага павета нарадзіўся Альгерд Рычардавіч АБУХОВІЧ – пісьменнік, перакладчык.

► 31 ліпеня 1919 г. у в.Стайкі Краснапольскага раёна нарадзіўся Сцяпан Іванавіч КУХАРАЎ – празаік.

# Нашы юбіляры



► Споўнілася 105 год з дня нараджэння Юркі ЛЯВОННАГА (Леаніда Мікалаевіча Юркевіча) — беларускага паэта

Нарадзіўся 16 (29) ліпеня 1908 г. ў г.Чавусы Магілёўскай губерніі ў сям'і служачага. Вучыўся ў Чавускай сямігодцы, Магілёўскім педтэхнікуме, Мінскім педінстытуце.

У аўтабіяграфічнай характарыстыцы ў Магілёўскую філію "Маладняка" ён напіша: *"Дзякуючы таму, што ў бацькі была даволі значная уласная бібліятэка, чытаць прызвычаіўся надзвычайна рана — з 6 гадоў. Чытаў, вядома, без сістэмы, што ў свой час і адбілася на ходзе далейшага развіцця. Некаторыя здольнасці да пісьменства выявіліся ў мяне ўжо ў часы навучання ў Чавускай школе 2-ой ступені.*

*З беларускай творчасцю крыху пазнаёміўся ў студзені 1925 г., слухаючы беларусазнаўства на Магілёўскіх агульнаадукацыйных курсах. Адразу надта зацікавіўся ёю, але наогул аб сучасным стане літаратуры меў вельмі дрэннае прадстаўленне. Першым друкаваным крокам былі селькораўскія заметкі ў газеце "Саха і молат" (вясной 1925 г.). Там жа надрукаваны быў мой першы "паэтычны вопыт" — верш "В дни скорби" — на расійскай мове...*

*З кастрычніка 1925 г., з уступленнем у Магілёўскую філію аб'яднання "Маладняк" — пачынаю грунтоўна і стала займацца вывучэннем тэхнікі вершавання, разборам навейшых аўтараў і наогул — самаадукацыяй у гэтым напрамку..."*

З успамінаў С. Грахоўскага: *"Ён гадзінамі чытаў па памяці Маякоўскага і Кірсанава, Ціханава і Лугаўскога. У яго быў тонкі густ да слова, да формы, а пра сябе ён часта гаварыў: «Сапраўднае я яшчэ напішу, значнае наперадзе...».*

Першыя зборнікі паэзіі "Камсамольскія вершы" і "Штурм" выйшлі ў 1930 г., наступныя — "Жалезныя віхуры" і "Разбег" (1931), "Стала і мужна" (1932). Безумоўна, вартасць гэтых твораў можна разглядаць толькі ў кантэксце пэўнай эпохі. Аднак, былі ў Лявоннага і лірычныя, вельмі рамантычныя вершы, пра якія ён аднойчы трапна заўважыў:

*Любоўную лірыку цяжка пісаць, –*
*Яе не бярэ выдавецтва.*

Працаваў у рэдакцыях газет "Магілёўскі селянін", "Звязда", часопіса "Работніца і калгасніца Беларусі". Член СП БССР з 1934 г..

Разам з С.Грахоўскім пераклаў на беларускую мову раман Ж.Верна «20000 лье пад вадой» (1937). А ўжо ў хуткім часе сябры разам сядзелі ў турме, хадзілі па допыты па адных калідорах. Пра гэта вельмі дакладна і праўдзіва напісаў у артыкуле "Рэквіем па другу" Сяргей Грахоўскі: *"У верасні 1937-га мяне перавялі ў гарадскую, кацярынінскіх часоў турму і кінулі ў агульную камеру. Якраз пад ёю, акно над акном, у сутарэнні сядзеў Юрка Лявонны. Мы адразу пачалі з Юркам перагаворвацца. Яму прыпісалі некалькі страшных артыкулаў. Прыкладна ў канцы верасня Лявонны "не выйшаў у эфір". Праз чатыры дні паведамілі з сутарэння: "Не вярнуўся. Забралі рэчы".*

Быў арыштаваны 30 кастрычніка 1936 г. З падследных, якія праходзілі з ім разам, толькі Юрка Лявонны не пацвердзіў, што Цішка Гартны "*контррэвалюцыянер*", "*нацдэм*" і г.д. Асуджаны пазасудовым органам НКУС 28 кастрычніка 1937 г. як «*член шпіёнска-дыверсійнай арганізацыі*» да вышэйшай меры пакарання з канфіскацыяй маёмасці. Растраляны ў ноч з 28 на 29 кастрычніка 1937 г. разам з 22 беларускімі і яўрэйскімі пісьменнікамі. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 25.4.1957 г. Асабовая справа № 10242-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.



► Споўнілася 95 год з дня нараджэння Рыгора Саламонавіча БЯРОЗКІНА – крытыка.

Нарадзіўся 2 ліпеня 1918 г. ў г. Магілёве ў яўрэйскай сям'і, у нейкай ступені, па тагачасных вызначэннях, паўпралетарскай: бацька працаваў бухгалтарам, маці – швяёй у майстэрні. Бацька ў 1922 г. памёр, з маці засталося чацвёра дзяцей, жылі ў пастаяннай нястачы, шчаслівыя моманты былі адно ў час паездак да родзічаў у вёску ля Чавусаў. Там хлапчук не толькі адпачываў, але і прызвычайваўся да сялянскай працы, таму заўсёды з пашанай адносіўся да працаўнікоў палёў.

З дзяцінства Р.Бярозкін палюбіў кнігу, добра ведаў класічную літаратуру, яшчэ школьнікам яго запрашалі чытаць лекцыі ў вайсковых часцях, у якасці ганарару атрымліваў сухі паёк. Пасля заканчэння сямігодкі паступіў адразу на трэці курс педрабфака ў Магілёве, а ў 1933-м стаў студэнтам творчага аддзялення Мінскага вышэйшага педінстытута, у якім з паўтарагадовым перапынкам вучыўся да 1938 г., але так і не закончыў. Прынамсі, ніякіх дакументаў пра заканчэнне вышэйшай навучальнай установы ў яго не захавалася. У канцы шасцідзясятых гадоў ужо вядомага крытыка і літаратуразнаўцу Р.Бярозкіна не прынялі на працу ў Інстытут літаратуры імя Я.Купалы АН БССР толькі таму, што не было дакумента аб вышэйшай адукацыі.

Яшчэ будучы студэнтам у 1933 г. надрукаваў першую рэцэнзію, але пачаткам літаратурнай творчасці лічыў артыкул *"Аб канкрэтнасці сапраўднай і ўяўнай: Нататкі пра дзве паэмы А.Куляшова"*, змешчаным у газеце "Літаратура і мастацтва" 30 кастрычніка 1936 г. Першымі публікацыямі адразу звярнуў на сябе ўвагу. Якуб Усікаў, таксама даваенны студэнт таго ж педінстытута, згадваў, што ўжо тады маладога крытыка называлі "беларускім Бялінскім" за дасканалае веданне рускай літаратуры, асабліва паэзіі; ён заўсёды меў пры сабе запісныя кніжкі, прыводзіў пры выпадку цытаты з класікаў, выказванні рускіх крытыкаў XIX стагоддзя.

Р.Бярозкін шмат пісаў пра паэзію, прымаў актыўны ўдзел у нешматлікіх на той час дыскусіях.

У красавіку 1941 г. быў арыштаваны па абвінавачванні за ўдзел у антыўрадавых арганізацыях. З таго часу пачынаюцца кругі пакут. У 1941 г., калі пачалася вайна, усіх арыштаваных, а таксама прывезеных на перасуд зняволеных з розных сібалагаў, пешай калонай адправілі на ўсход, але пры першым жа налёце фашысцкай авіяцыі канвой разбегся, а арыштаваныя адправіліся кожны сваёй дарогай. Тут узнікаюць многія легенды. У адной сцвярджаецца, нібыта са слоў самога Бярозкіна, што іхнюю калону расстралялі ў кар'еры пад Ігуменам (Чэрвенем), але Бярозкін застаўся цудам жывым, паколькі проста быў аглушаны рыкашэтам. У другой – пад налётам ахоўнікі проста разбегліся, пра што сведчыў і М.Сяднёў. Праўда, невядома, ці былі яны ў адной калоне, бо з Мінска такіх калон адпраўлялі некалькі. Як бы там ні было, але ў канцы чэрвеня Р.Бярозкін з'явіўся ў Магілёве, запісаўся добраахвотнікам у армію, ваяваў да Перамогі, прайшоў шлях ад радавога-пехацінца да супрацоўніка газеты. І толькі ў 1949 г., пасля актыўнага выступлення ў друку, быў паўторна арыштаваны, калі знаходзіўся ў групе войск у Германіі, асуджаны па тым жа абвінавачванні, усё роўна як не было гадоў гераічнага змагання з фашызмам.

У паняверках ГУЛАГАЎ у памяці склаў кнігу пра паэзію А.Куляшова, П.Панчанкі і М.Танка.

Пасля рэабілітацыі прадаўжаў працаваць у рэдакцыях часопіса "Нёман", штотыднёвіка "Літаратура і мастацтва", бюлетэня "Помнікі гісторыі і культуры Беларусі".

Пісаў на беларускай, рускай і яўрэйскай мовах.

Памёр 1 снежня 1981 г. Пахаваны ў Мінску на Усходніх могілках.

*Паводле **Яраслава КЛІМУЦЯ.***

Народная Воля

Яўген КОЛАС

www.nv-online.info

№ 50 (3791)

## З НАТУРЫ

# Размова

*Пад вечар неяк ля ракі*
*Вялі гаворку юнакі —*
*Аб тым, куды ім лепш падацца,*
*Дзе пасля школы ўладкавацца.*

*Адзін упэўнена сказаў:*
*— Хай агітуюць ў трактарысты,*
*А я пайду у хакеісты!*
*Буду шайбачку ганяць,*
*Даляры клюшкай заграбаць!*

*Другі паслухаў, усміхнуўся*
*І так на гэта адгукнуўся:*
*— А я ў чыноўнікі пайду*
*І ўсё, што трэба, там знайду.*
*Перабяру свае паперы —*
*І мне хакей той да халеры!*
*Адна сказала мне кабета:*
*Нядрэнна плацяць там за гэта.*

*А трэці проста засмяяўся*
*І шчыра сябрукам прызнаўся:*
*— У міліцыянты я пайду,*
*Занятак файны там знайду.*
*Не трэба сеяць і араць*
*Ці тую ж шайбачку ганяць.*

*Хадзі сабе і назірай,*
*Каб не збіраліся болей двух,*
*Бо тры — ўжо падазроны рух.*
*Яшчэ засведчыў сам сабе —*
*Супрацівляліся табе.*
*Галоўнае — не разгубіся.*
*Як што — дубінкай замахніся.*
*Цягні усіх у пастарунак,*
*Там хутка падвядуць рахунак.*
*Калі пачне хто абурацца,*
*Правы качаць, з суддзёй спрачацца,*
*То хутка трапіць ён за краты —*
*І не пабачыць роднай хаты!*

*...Мо нехта скажа — выключэнне,*
*Чаго трывожна біць ў званы?*
*Не мае гэта ўсё значэння...*
*Ды мне не трэба той маны!*

*З'язджае моладзь што ні лета...*
*А той, хто дома застаецца,*
*Не на завод ці на палетак —*
*Ў кантору ўладкавацца пнецца.*

**Фелікс ШКІРМАНКОЎ,**
**інвалід ВОВ, жыхар г.Слаўгарада.**

# Анатоль Санаценка - у "Літаратурнай Беларусі"

**Прапануем вашай ўвазе апавяданне А.Санаценкі "Матылёк з Нюрнберга", якія 26 ліпеня 2013 г. на сваіх старонках змясціла "Літаратурная Беларусь".**




«Новы Час» ◂ «Літаратурная Беларусь» ◂ № 7 (83) 26 ліпеня 2013 г.

ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ

Выпуск №7 (83) (ліпень)

www.lit-bel.org www.novychas.info

Культурна-асветніцкі праект Грамадскага аб'яднання «Саюз беларускіх пісьменнікаў» і «Новага часу»

АПАВЯДАННЕ

# МАТЫЛЁК З НЮРНБЕРГА

Анатоль САНАЦЕНКА

**Успаміны пра яе займаюць самы пяшчотны перыяд майго жыцця.**

Я быў малады, свежы, адзінокі і яшчэ патрабаваў ад свету паразумення.

Мая журналісцкая кар'ера развівалася ўдала: праз два гады працы я быў пасланы ў Норск галоўным рэдактарам рэгіянальнага дадатку «Часу». Кватэра, машына, пад'ёмныя — прыкладаліся.

І ўвесь час, пакуль я ехаў на новае месца, пад радасны перастук колаў цягніка маё сэрца замірала ад прадчування немагчымага шчасця...

На новым месцы я ўзяўся за справу з цікавасцю, з густам, знайшоў слабыя месцы ў бюджэце газеты і праз паўгода прыкметна павялічыў яе прыбытковасць.

Наш рэгіянальны дадатак рыхтаваўся адзначыць сваё дзесяцігоддзе. Акрамя ўсяго іншага, гэта была выдатная магчымасць умацаваць і пашырыць чытацкія шэрагі.

Цэнтральны офіс ухваліў падрыхтаваны мною план урачыстых мерапрыемстваў. За дапамогай у складанні сцэнара і правядзення свята я звярнуўся ў аддзел культуры мясцовай адміністрацыі. Там мне парэкамендавалі загадчыцу літаратурнай часткі мясцовага тэатра — «надзвычай адоранага чалавека», як сказалі ў адміністрацыі.

Я паслухаўся іх парады.

— Тацццяна Царова, — праспявала юная істота, падаючы мне сваю цёплую далонь. Я разгублена патрымаўся за яе далікатную, даверлівую руку, якую мне нияк адразу не захацелася адпускаць, затым прадставіўся.

— А я вас ведаю.

—?

— Так, так. Не здзіўляйцеся. Я — адданая чытачка вашага выдання, вашых выдатных артыкулаў...

— Не, я вас нікому б не аддаў... — перапыніў я яе, каб скаламбурыць з такой нагоды, якую я, па сваёй колішняй звычцы, стараўся ніколі не прапускаць.

Яна замерла на імгненне, уважліва паглядзела на мяне і засмяялася, залілася смехам, зазвінела званочкам...

Мы пасябравалі.

Яна была таленавіта прыгожая. Чыстая лінія яе твару заставалася ў сэрцы раз і назаўсёды.

Кожны яе рух быў геніяльным! І тое, як яна ішла па вуліцы, і тое, як увaходзіла ў памяшканне, і як прысядала на краёчак крэсла, — усё гэта было незвычайна, незвычайна... Вядома, я закахаўся...

Юбілейныя святкаванні прайшлі выдатна. Норск ніколі не бачыў нічога падобнага. Урачыстыя вечар у тэатры, званы вечар для мясцовай эліты ў рэстаране, назаўтра — канцэртная праграма ў гарадскім парку з удзелам сталічных зорак, увечары — вулічны карнавал, тэатралізаваныя паказы, конкурсы, латарэі...

І ўсе гэтыя дні Тацццяна была побач. Калі яна, у святле сафітаў,



падымалася на сцэну тэатра, я — у думках — кідаўся на доўгія захопленыя погляды, пасыланыя ёй з залы іншымі мужчынамі. Што ім незразумела: яна — мая!.. Мая!..

Да канца ўрачыстасцяў Тацццяна, — яе вобраз, яе голас, усё яе быццё — пранiклі ў мяне настолькі, што, здавалася, сталі арганічнай, прыроднай часткай маёй істоты.

А што ж яна? Якія пачуцці былі ў яе?.. Гэта да пары да часу было для мяне загадкай.

Лічачы сябе спецыялістам па частцы жаночай псіхалогіі (як потым аказалася — неразважліва), я ўсё не мог зразумець, не мог разабрацца, што рухае ёю. Хоць потым мы і сталі блізкія...

Так, здавалася б, яна была ветлівай са мной, спрыяла мне як мужчыне... (Назаўжды застаўся ўва мне «вадзяным малюнкам», бачным толькі на прасвет памяці, наступны шэдэўральны сюжэт: яна і я ў пустым паўцёмным зале тэатра, у якім больш нікога, бо вартаўнік захварэў; яна са сцэны чытае Шэкспіра, з чароўнай усмешкай паступова вызваляецца ад адзення і ў фінале падае ў партэр, да мяне на рукі...). Але калі я спрабаваў завесці гаворку аб сваім пачуцці, аб тым, што я жадаю быць з ёй побач — і ў смутку, і ў радасці, і ў хваробе, і ў здароўі, — Тацццяна рабілася сумнай і спыняла мяне.

«Не трэба пра гэта», — ціха прасіла яна. І дадавала: «Ты зусім мяне не ведаеш». — «Ну дык раскажы пра сябе, каб я ўсё-ўсё-ўсё ведаў пра маю радасць», — казаў я, абдымаючы яе, імкнучыся перавесці размову ў жартоўную танальнасць, паколькі гэтая яе змрочнасць чамусьці мяне палохала. «Другім разам», — без усякай надзеі абяцала Тацццяна.

Падпускаючы да сябе, яна не дазваляла мне пранікнуць у яе душу. Пакідаючы сваю душу (я адчуваў гэта выразна) свабоднай.

Між тым пачуццё маё расло не па днях, а па гадзінах. Валоданне яе целам мне было недастатковa, я хацеў валодаць ёю цалкам. Я хацеў увайсці ў яе душу і застацца ў ёй назаўжды. Але, дзелячы ложак, яна не хацела дзяліць са мною сваё жыццё. І гэта я таксама разумеў.

І ўсё ж я быў шчаслівы. Няхай шчасце маё і мела прысмак горычы, я быў шчаслівы з ёй, навучыўшыся жыць імгненным, не думаць пра будучыню... Памятаю, як яна, узбуджаная нейкімі падзеямі, без званка ўрывалася ў маю кватэру (я забяспечыў яе дублікатам ключоў), — шумная, жудасна мілая ў сваёй эмацыйнай ускладнёнасці... Я супакойваў яе доўгім пацалункам у вусны, садзіў на канапу — і мы аддаваліся ўсім тым пяшчотам кахання, на якія толькі былі здольныя... Успамінаю таксама, як часам, утульна цёплымі летнімі вечарамі, у канцы працоўнага дня, яна прыходзіла да мяне ў рэдакцыю. Застаўшыся адны, мы былі нястрымныя ў сваіх памкненнях...

Здзіўляла і трывожыла мяне ў ёй таксама тое, што яна ніколі не заставалася ў мяне на ноч, нібы яе ночы былі прызначаны камусьці іншаму. Я быў упэўнены ў тым, што, акрамя мяне, у яе нікога няма. Але зразумець гэтай яе асабліваcці — не мог.

Узяўшы ў ліпені адпачынак, я павёз яе за мяжу.

Некалькі дзён у Варшаве, некалькі дзён — у Берліне.

Употай я хацеў мацней прывязаць яе да сябе, адчуваючы набліжэнне чагосьці драматычнага, што можа яе забраць...

**Валоданне яе целам мне было недастаткова, я хацеў валодаць ёю цалкам. Я хацеў увайсці ў яе душу і застацца ў ёй назаўжды. Але, дзелячы ложак, яна не хацела дзяліць са мною сваё жыццё**

У Варшаве мы жылі ў невялікай утульнай гасцініцы, недалёка ад цэнтра. Сілкаваліся ў кітайскім рэстаранчыку. На абед заказвалі італьянскае віно, суп з крэветкамі, складана запечаную рыбу...

Аб'ездзіўшы і абышоўшы пешшу ўвесь горад уздоўж і ўпоперак, мы любілі вяртацца ў Стара Място, на сярэднявечную ціхую плошчу, акружаную з усіх бакоў рознакаляровымі дамамі, якія пяшчотна туліліся адзін да аднаго.

Мы прысаджваліся на чыгунную лаўку і павольна вывучалі ўсё навокал. Мінакі, вулічныя мастакі; гэтыя, быццам цацачныя, домікі, — іх фасады, дзверы, вокны; краму антыкварыяту; уваход у музей Адама Міцкевіча...

«Уяўляеш, тут жылі — нараджаліся, любілі, паміралі — за пяцьсот гадоў да нашага з'яўлення на свет, — дзівілася яна і летуценна клала галаву мне на плячо. — Цікава, а як гэта — жыць у такім вось доме, з такой вось старажытнай гісторыяй?» — гаварыла яна, гледзячы на жанчыну, якая ключом адчыняла дзверы насупраць нас, каб увайсці ў будынак. (Потым я даведаўся, што гэтыя дамы — толькі прывід будынкаў, разбураных падчас вайны...).

У цягніку «Варшава–Берлін» яна раптам стала маўклівай. А затым, пільна паглядзеўшы на мяне доўгім позіркам, прызналася. Яна ва ўсім прызналася ...

Яго завуць Аляксандр Куракоў. Ён — прафесар, яе інстытуцкі настаўнік. Цяпер у Нямеччыне, на гастролях, — са сваім тэатрам-студыяй, які стварыў, калі Таня вучылася ў яго...

Я выйшаў з купэ, апусціў у тамбуры акно. Цёплае начное паветра не астуджала майго палаючага твару. Калі вярнуўся, яна спала, згарнуўшыся абаранкам.

Раніцай мы не прамовілі ні слова...

У Берліне мне стала зусім дрэнна.

Пакінуўшы Тацццяну ў гасцініцы, я гадзінамі блукаў па горадзе.

Усё прычыняла мне пакуты: шкляныя вітрыны крам на Кюрфюрстэндам, жыццярадасна страляючыя сонечнымі прамянямі; пяшчотнае вуркатанне заказанай парачкі, якая абагнала мяне на паваротцы вуліцы; глыбокі ўздых двух'яруснага аўтобуса, што ветліва адчыняў свае дзверы, ветліва схіляўся да тратуара...

За паваротам аднаго з дамоў — чорныя, гладкія, бліскучыя панэлі — нечакана выйшаў да Шпрэе, і задыхнуўся — ад болю, ад сонечнага прастору, які адкрыўся вачам... Пакутлівыя, сухія рыданні вырваліся з маіх грудзей. Стрымліваць іх у мяне ўжо не было сілаў. Закрыўшы твар рукамі і прыціснуўшыся да сцяны нейкага дома, я бязгучна ўздрыгваў усім целам у спазмах бясслёзнага плачу.

Мяне кранулі за плячо. Светлавалосы пажылы немец спагадліва пацікавіўся, што са мной. Зрабіўшы міжнародны жэст, які азначаў: «Усё ў парадку», — я пайшоў уздоўж ракі. «Мая бедная зялёнавалосая Ларэлея! Я гіну ад тваіх чараў»...

У гасцініцы яе ўжо не было. На пісьмовым стале, — вось так проста, звычайна, будзённа — ляжала запіска. «Ён у Берліне. Мая душа належыць яму. Прабач».

Сяк-так сабраўшы рэчы ў дарожны чамадан, паехаў на вакзал.

Цягнік адпраўляўся праз сорак хвілінаў. Чакаючы пазначаны ў білеце час, без мэты блукаў па вакзале, — сядзець на адным месцы было невыносна пакутай...

Наткнуўшыся на газетны кіёск, купіў свежы «DER TAGESSPIEGEL», пачаў аўтаматычна праглядаць яго.

У раздзеле «Культура» пісалі пра гастролі эксперыментальнага тэатра пад кіраўніцтвам Куракова. Як я зразумеў, пісалася там шмат пахвальнага. Гэта было зусім ужо нясцерпна. Я скамячыў газету...

Абвясцілі пасадку. Увайшоўшы ў купэ, я зачыніў за сабою дзверы, але праз хвіліну ў іх ветліва пастукалі.

Аказалася, мой суайчыннік; вяртаецца на радзіму.

Ніякага жадання размаўляць у мяне не было, але мой сусед па купэ, на няшчасце, быў п'яны і гаваркі. Нейкі час я не ўпускаў яго балбатню ў сваю свядомасць, якая была аглушана сапраўдным чалавечым горам. Затым стаў няўцямна прыслухоўвацца...

З яго маналогу я зразумеў, што ён — акцёр, пасварыўся з рэжысёрам — з-за дробязі, але для яго — прынцыповай рэчы. Разарваў кантракт і цяпер вяртаецца дадому. Нагаманіўшыся, ён змоўк. Сядзеў за сталом, падпёршы галаву кулаком. Затым дастаў з сумкі пляскатую бутэльку з каньяком, наліў сабе і прапанаваў мне. Я адмовіўся.

Выпіўшы, ён папрасіў паглядзець газету, якую я, з-за няўважлівасці, прыцягнуў з сабою ў купэ.

Расправіўшы і пагартаўшы яе, ён нечакана ўсклікнуў: «А-а-а, і тут спадар Куракоў!» — «Вы яго ведаеце?» — зацікавіўся я. — «Як жа, як жа, ведаем-с. Яшчэ як ведаем-с! — Чамусьці старамодна адказаў ён мне. — Сволач прыстойная». — «Што так?» — «Ды вось так! Доўга тлумачыць, але калі вы хочаце... » — «А ці ведаеце вы Тацццяну Царову? — перапыніў я яго. — Яна быццам бы мае нейкае дачыненне да тэатра Куракова...» — «І самае непасрэднае. Яшчэ тая штучка, скажу я вам. Мала таго, што, яна — актрыса тэатра Куракова, — два гады таму ледзь не разбіла яго сям'ю (зрэшты, я не моцна перажываю з гэтай нагоды), дык, увяіце сабе: на днях зноў заявілася да яго — тут, у Берліне. І паміж імі зноў пачалося... Каханне, разумееце. Пачуццё! Між тым розніца ва ўзросце — дваццаць гадоў!..»

Вярнуўшыся ў Норск, я адчуў нясцерпнае жаданне здзейсніць якія-небудзь гвалт над сабой, над сваім лёсам...

Я звольніўся з газеты і падаўся ў сталіцу. Там і заспела мяне вестка аб яе гібелі ў аўтамабільнай катастрофе, — на горнай дарозе ў Швецыі, у машыне Куракова, які, між тым, застаўся жывы.

А праз два тыдні пасля гэтага па пошце прыйшоў вялікі жоўты канверт, упрыгожаны маркамі тых месцаў, дзе ён, у пошуках мяне, паспеў пабываць.

Яе рукой на ім старанна было выведзена маё імя і адрас.

Нічога не разумеючы, я, у смутку і жаху, разарваў яго і тут жа здрыгануўся ўсім целам, усёй душою: да ног з канверта выпырхнуў велізарны, яркі матылёк.

Гэта была акуратна выразаная з нямецкай паштоўкі крапіўніца (яна памятала пра маю любоў да прозы Набокава).

На адваротным баку несмяротна дарагім мне почыркам... «Мілы Сашанька, гэты матылёк паспеху прыляцеў да цябе з Нюрнберга. Будзь шчаслівы. Прашу цябе, будзь шчаслівы...»

Я не змог выканаць гэтую просьбу...

Васіль АЎРАМЕНКА

# ГОЛАС І РЭХА, АБО НАСТАЛЬГІЧНЫЯ ВАНДРАВАННІ БАЗЫЛЯ КАМАРОВА

*Няма таго, што раньш было* "– сказаў паэт. *"А што ж ёсьць?"* – спытаў празаік, – *"Няўжо тое, што ёсьць, горшае за тое, што было?"* Палітык на гэта скажа, што мінулае – проста жах, цяперашчына – таксама *"не фантан"*, а вось будучыня, асабліва пад яго́ным кіраўніцтвам, гэта будзе рай. Гісторык зь ім не пагодзіцца: то даўней былі *"залатыя часы"*, калі жылі волаты і героі. Цяпер жа народ здрабнеў, даўно няма геніяў і тытанаў, а ўсё што нас чакае – дэградацыя, занялад і шэраг непазьбежных катастроф. Селянін, паслухаўшы іх, скажа: мо і сапраўды раней трава была зелянейшая і сала на кабанах таўсьцей, але ж гной па ранейшаму пахне гноем, а бульбу, як і калісь, трэба садзіць у зямлю. І толькі мастак прамаўчыць. Бо мастакі заўсёды гавораць мала, ім больш падабаецца крэмзаць паперу ці фарбаваць палотны, не зважаючы на курс даляра або эканамічную каньюнктуру за сьценамі майстэрні.

І ўвогуле, што такое мастак сёньня, у эпоху татальнай эканамічнай мэтазгоднасьці і кампутарных рэвалюцый? Як выжываюць прадстаўнікі гэтай не самай прэстыжнай і не самай прыбытковай прафесіі? А як да мастака, то чаму б не да Базыля Камарова? Колькі год не бываў у яго ў гасьцях. Ды й нагода ёсьць не абы якая – 60 год. Узрост сур'ёзны для любога мужчыны і мастака. Ёсьць што паказаць ці хаця бы пра што ўзгадаць.

### МАСТАК І МАЙСТЭРНЯ

Даўно заўважыў: каб лепш пазнаць чалавека, пазнаёмся зь ім у хатнім інтэр'еры. А калі гэта мастак, то лепш у майстэрні. Базылёва майстэрня практычна не зьмянілася за дзесяць год маёй адсутнасьці. Тыя ж палічкі са збанкамі, сухімі кветкамі, адмысловымі каранямі і макетамі замкаў, зашмальцаваны стол з кубкам недапітай гарбаты і сьлядамі тытунёвай залежнасьці гаспадара, нізенькая канапа, рыпучае крэсла, рамы, палотны, стосы аркушаў, фарбы, палітры, алоўкі і процьма розных мастакоўскіх дробязяў. Рэчы, да якіх не дакраналіся гадамі, пакрыты пылам, карыстаныя кожны дзень ільсьняцца і просяцца ў рукі, каб аддаць цяпло і давесьці невыпадковасьць сваёй закаханасьці ў гаспадара. Адным словам, той самы мастацкі вэрхал і жывапісны развал, у якім, бадай, толькі і магчыма бесперапыннае творчае жыцьцё. Бо, як з хаосу вырастае сапраўдны парадак, так і з бруду найлепшыя кветкі. Роўныя шыхты, ідэальны парадак – канец творчага неспакою, а стэрыльная чысьціня – то ўжо прыкмета сьмерці. Здаецца, я разумею, чаму ў Базыля няма настальгіі па роднай вёсцы ці жаданьня зьмяніць гарадзкую прапіску. Бо ў яго ёсьць майстэрня! А майстэрня для мастака – і радзіма, і радзільны дом, і дом адпачынку, а часам і спачыну. Менавіта яе сьцены першымі бачаць нараджэньне ці сьмерць карцін, узьлёт ці падзеньне свайго гаспадара. Мастакоўскія прылады становяцца саўдзельнікамі посьпеху, а часам і творчымі абярэгамі майстра. Мастак без майстэрні, як селянін без зямлі або патрыёт без Айчыны. А тым больш такі "ўкаранелы" мастак, як Базыль Камароў.

### МАСТАК БЕЗ УЗРОСТУ

Неардынарнасьць Камарова як мастака ў тым, што як творца ён бадай што ўніверсал. Па акадэмічнай адукацыі кніжны графік, ён ня толькі валодае ўсімі графічнымі тэхнікамі, але плённа працуе ў жывапісе, мастацтве інтэр'ераў, росьпісах сьценаў, дызайне эмблем і лагатыпаў. Нават у вандроўцы, у лесе ён знойдзе час, каб са старога карча сякерай ці нажом зрабіць адмысловую міні-скульптуру, або з галінкі выразаць элегантны кіёчак ці сьвісьцёлку. Пастаянная зацыкленасьць на мастацкім пераасэнсаваньні ўбачанага і здольныя да любога інструменту рукі робяць зь яго ўніверсальнага майстра без *"выходных і вакацый"*. Мастацтвам ён можа займацца 24 гадзіны ў суткі, а ідэй і сюжэтаў мае больш, чым магчымасьцяў іх рэалізаваць. І з гадамі іх ня менее – яшчэ адна адметнасьць Камарова, для якога ўзрост азначае ня творчы застой, а непазьбежнае паскарэньне часу, і як вынік (на жаль) – адставаньне спрыту рук ад палёту думак і жаданьняў. Як і многія будучыя пенсіянэры, ён цешыць сябе надзеяй, што вось-вось пазбавіцца ад казённа-музейнага "прыгону" і тады ўжо зьявіцца час на ўласную творчасьць, поўную самарэалізацыю і на ўсякія "неактуальныя" рэчы. Бо так шмат яшчэ хочацца зрабіць, дарабіць і перарабіць…

### МАСТАК І ГОРАД

Нягледзячы на шырокі мастацкі дыяпазон Камарова, у яго ёсьць улюбёныя ці нават эксклюзыўныя рэчы. Гэта, найперш, выявы старога Магілёва. Захопленасьць Базыля гісторыяй і беларускай мінуўшчынай не выпадковая. Выхаванец знакамітага "Парната" (рэспубліканскай школы-інтэрната для адораных дзяцей) ён ужо ў 15 год адчуў сябе мастаком і бадай адначасова – беларусам. Вясковец па нараджэньні, у 6-7 класах спецшколы амаль што "пераламаны" на *"русско-городской манер"*, пасьля адной з экскурсій у Прыбалтыку (гэта была Рыга) задумаўся спачатку над сваёй беларушчынай, а потым і лёсам Беларусі. "Парнат" ужо тады, у канцы 60-х, меў настаўнікаў і навучэнцаў, што перайма́ліся гэтымі праблемамі і спрабавалі іх неяк прэзэнтаваць. Таму сярод гадаванцаў школы і калег Камарова быў немалы працэнт *"будучых нацыяналістаў"*. Само гэтае слова тады было пад забаронай, але думка пра адметнасьць і нерэлізаванасьць беларускага шляху пацiху тачыла ідэйны маналіт "зборачнага цэху" СССР. У канцы 80 – пачатку 90-х таемныя памкненьні выйшлі вонкі, а разам зь імі стала актуальнай ды сацыяльна запатрабаванай творчасьць нацыянальна-арыентаваных мастакоў. Жыцьцё ў Магілёве і, бадай, праца ў тутэйшым музэі паўплывалі на творчы выбар. Значная частка пейзажных твораў Камарова – гістарычныя краявіды Магілёва розных часоў ці проста настраёвыя гарадзкія пейзажы старога гораду. Мастак акадэмічнай школы, ён рабіў нешта падобнае да справы Васьняцова, які ў канцы XIX ст. "ажыўляў" у сваіх карцінах старадаўнюю Маскву. Але акрамя гістарычна-адраджэнскага працы Камарова, мне здаецца, нясуць іншы эстэтычны і сьветапоглядны пасыл. Ён піша ня проста "рэальны Магілёў", які набліжаны да будзённага жыцьця XVI ці XVII стагоддзя, а казачна-дасканалы, амаль пазачасовы горад, у атачэньні фантастычна прыгожых аблокаў і чароўнага ландшафту. У такім месцы ня можа быць гора, нэндзы, пакут ці нават кепскіх месьцічаў. Гэта ідэальны горад. У біблейскай традыцыі такім апісваецца Нябесны Ерусалім, у Кампанэлы – Горад Сонца, у Томаса Мора – Утопія, у кожнага народа, а то і пакаленьня, гэта можа быць свой – горад Мары. Ці можна такое мастацтва сёньня назваць актуальным, калі стары рэалізм даўно занялаў, а вакол пануе постмадэрн, пэрформанс і татальны канцэптуалізм? Ці магчыма ўвогуле цяпер актуальнае мастацтва?

Кожны чалавек у жыцьці стварае ўласны сьвет: селянін засявае яго расьлінамі, будаўнік – узьведзенымі гмахамі, сямейнік – уласнымі дзецьмі, падарожнік – калекцыямі ўражаньняў ці экзатычных сувеніраў. Мастак – не выключэньне. Ён стварае свой сьвет на палатне. Мо ён не такі ўежны, як у селяніна, не такі грунтоўны, як у будаўніка, але больш відавочны, чым у паэта ці музыкі. І чамусьці галоўны крытэр да мастакоўскага сьвету заўсёды быў адзін – прыгажосьць. Не каларыйнасьць, надзейнасьць і дакладнасьць, а толькі краса. Мяняюцца ўяўленьні людзей аб прыгажосьці, яе ўзоры і ідэалы, але патрабаваньне да мастака *"рабіць прыгожа"* пакуль не адмянілася. Што робяць карціны ў нашым жытле? Упрыгожваюць яго. Чаго мы ходзім на выставы? Палюбавацца мастацтвам. Мастакі – ледзь не апошнія невылечныя рамантыкі грамадства, бо нават самыя барадатыя і панурыя сярод іх засцята кшталтуюць уласныя мары і да апошняга руху рукі шукаюць свой ідэальны вобраз.

Вось і Камароў у сваіх выявах старога Магілёва, сьвядома ці незнарок, увасабляе мару беларуса аб *"вечным горадзе"*, які б не разбураўся дазваньня ў кожным стагоддзі ці з прыходам кожнай новай улады, у якім бы мірна жылі ў суладзьдзі між сабой і ў гармоніі з навакольлем месьцічы-беларусы. Мара, бадай, фантастычная і недасяжная, як у прынцыпе і любы ідэал, але ж прыгожая і звабная для рамантыкаў ды маладых. А хіба варта пазбаўляць людзей мары і будучыні? Усе маюць права верыць у нешта лепшае, чым было ўчора, ці ў нешта прыгажэйшае, чым маюць сёньня. Таму, на мой погляд, Базыль Камароў ёсьць ня толькі мастакам-рэаніматарам нашай мінуўшчыны, але і творцам будучыні. А мастацтва, якое дае надзею ці імкнецца ў будучыню, заўсёды будзе актуальным.

### МАСТАК І РЭХА

Мастацтва бывае розным: папулярным, модным, авангардным, камерцыйна-пасьпяховым ці палітычна-запатрабаваным, аднак у многіх мастакаў застаецца нешта асабістае, інтымнае, часам неназоўнае, што хочацца зрабіць "для сябе". Не сказаць, што Базыль Камароў у гэтым вельмі арыгінальны, бо і яго з узростам цягне да вытокаў жыцьця і радзімы, радзімы не ў сацыяльным, а ў метафізічным сэнсе. Яго роздумы аб повязі чалавека з зямлёй, вадой і небам, вобразы *"каранёў і крон"*, *"вытокаў і плыні"* знаходзяць увасабленьне ў графічных аркушах і палотнах. Метафары гэтых твораў не заўсёды лёгка чытаюцца, стрыманы каларыт і гармонія іх не так відавочныя і відовішчныя, як дасканаласьць архітэктурных ансамбляў ці вясёлкавасьць імпрэсіянічных пейзажаў. Але для беларуса, што любіць гаі ды крыніцы, рэкі і пагоркі свайго краю, неабыякавы да іхняга лёсу, большыня яго́ных работ будзе добрай нагодай да здумленьня і эстэтычнага суперажываньня. Ня ўсё самае прыгожае кідаецца ў вочы і не любая ісьціна агаломшвае сваёй безапеляцыйнасьцю.

Апошнім часам Базыль выношвае ідэю зрабіць цыкл на тэму "Пошукі рэха". Рэха – ня толькі водгук жывых галасоў, а і вібрацыя думак і пачуцьцяў тых людзей, што сышлі, адгалоскі тых падзей, што даўно мінулі. Аднак застаецца надзея, што недзе ў сусьветным эфіры, у памяці зямлі або нашым генетычным кодзе яны засталіся рэхам, пачуць якое можа далёка ня кожны. Толькі чалавек чуйны і таленавіты, духоўна настроены на тую глыбінную хвалю можа адчуць даўно забытае. Ня ведаю, наколькі рэальна гэта зрабіць мастаку – узнавіць карціны мінулага. Ці можа чалавек увогуле выказаць нешта большае, чым даў яму жыцьцёвы досьвед? Мо гэта толькі голас дзеда, які кляпаючы касу ды прыгаворваючы свае дзіўныя прымаўкі, узбуджае няясныя дзіцячыя фантазіі. Ці старадаўняя песьня бабулі за працай у полі ажыўляе даўно забытыя пахі і мроі. Скептыкі ды рацыяналісты так усё і патлумачаць. Але, памойму, жывапіс, і тым болей графіка, у адрозненьне ад палітыкі, ёсьць мастацтвам немагчымага. Бо гэта пастаяннае пранікненьне за межы відавочнага і будзённага, здольнасьць зрабіць нешта большае за рэальнасьць ці магчымасьць лагічнага вытлумачэньня. Таму, напэўна, сапраўдныя мастакі часьцей такія нешматслоўныя, бо думаюць вачыма і бачаць душой значна лепш, чым могуць сказаць языком. А мо яшчэ й таму, каб неасьцярожным словам не разбурыць магію ліній і колераў, цуд які можна толькі ўбачыць.

Я спадзяюся, што настальгічныя вандраваньні Базыля Камарова па магілёўскіх нетрах і лабірынтах уласнай памяці, гатак жа як і вандроўкі па рэальнай Беларусі, якія ён вельмі любіць, яшчэ працягнуцца. А рэха ягонай творчасьці будзе чутна ў мастацкай і культурнай прасторы ня толькі нашага гораду, але і краіны.



# БАЗЫЛЬ КАМАРОЎ Карацелькі

* * *

Кружляе вецер у замкавым дзядзінцы –
Віхурыць памяць да нябёсаў.

* * *

Толькі знайшоўшы сябе ў натоўпе,
ты адчуеш суладдзе з адзінотай.



* * *

Гляджу ў нябёсы.
Хай люструюцца зоры.
У вачах слёзы.

* * *

Свайго абутку
вывучаю адбіткі.
Даўно чакаю…

* * *

Гайдае вецер цеплыню арэляў…
Не спіць дзіця.

* * *

Мастацтва нараджаецца не ад сузірання, а ад трымцення сэрца, выкліканага сузіраннем.

* * *

Дух,
днём стамлёны,
Грувасткасць
ночы доўгай
Ці супакоіць?



* * *

Аб корань
У лесе
Спатыкнуўся
Баліць
Мне
Прабач
Дрэва

* * *

Чорныя крыкі
Ў карунках
чорных дрэў.
Падоўжыўся дзень.

* * *

Мружачы вочы, ляжу ў высокай траве.
Зялёны лісток закрывае паўдзённае сонца.
У дзедавым садзе здзічэлым
З унукам гуляю ў хованкі.
Бясконца доўга коціцца яблык дзяцінства.

* * *

Прайдуся напрасткі па мяккай сцежцы, у скверы вытаптанай, лісце счарнелае нагамі варушачы, – развітаюся з восенню.
Выйду на дарожку брукаваную, першым снегам прысыпаную, – павітаюся з зімой.

* * *

Бялюткае поле чысцюткага лёну
Паквэцаў бязлітасна пэндзаль рухавы.
Рука, што трымае яго, –
Квінтэсэнцыя руху траістасці:
Чуллівасці сэрца,
Пластычнасці розуму,
Пяшчоты душэўнай.

* * *

Упэўнены, што раннюю вясной
Абудзіцца пупышка на галінцы,
На дол сыры злятае жоўты ліст.

* * *

Магілёўская тапаніміка:
Калі стаць на галоўнай плошчы тварам да дома Саветаў, то пад нагамі ў нас будзе плошча Леніна, перад вачыма – помнік Леніну, ззаду – бульвар Леніна, справа – вуліца Ленінская, за ёй – адміністрацыя Ленінскага раёна.

* * *

Пісаць шырокім пэндзлем неба –
усё роўна, што імправізаваць на піяніна.

* * *

Выціснутая ветрам ці ўспамінамі сляза
коціцца па старэчым твары як горная ручаіна,
шукаючы зморшчыны-цясніны.



* * *

Карані не жывяць галіны,
лістота не радуе вока.
Застыла ва ўспамінах старое дрэва.

* * *

Што больш радуе – адкрыццё новага,
раней невядомага, ці вяртанне да таго,
што ведаеш да драбніц здаўна
і па чым паспеў засумаваць?

* * *

Асірацелае бусловае гняздо
На даху стронцыем зламанай хаты…
Здзічэлая ігруша каля плоту
Кідае долу свой апошні чорны ліст.
Паслаўся ручніком туман калючы,
Абняў рачулку ў нізкіх берагах,
Што ў Бесядзь коціцца гаротнаю слязою…
І прыдарожны крыж, пакрыты мохам,
Маўкліва ў палоне палыновым,
Чарнее шыбеніцай
на ружовым небасхіле,
Дзе праразае рыскай
залатой без гуку,
Нібы з другой
цывілізацыі. Страла…

* * *

Руйнуе памяць час…
Глыбеюць зморшчыны
На твары.
Вечар.

* * *

Зубцамі-грабеньчыкамі
яліны ў неба
вяршыні свае выткнулі –
расчэсваюць
асеннія нізкія хмары.

* * *

Верш настолькі ўзрушыў,
што як на добрую карціну
на выставе ці цікавую асобу на вуліцы –
азірнуўся, пачаў чытаць спачатку.

* * *

Запаланілі двор стамлёныя аўто.
Маўклівыя ў цішы, у задуменні.
Ім помніцца пара іх маладосці,
Імклівы бег па еўрапейскіх аўтабанах.

* * *

Прысніласся:
Сяджу ў Санкт-Пецярбургу на ўзбярэжнай з томікам вершаў Васіля Быкава насупраць адрэстаўраванага дома, дзе жыў Францішак Скарына.
Міма праходзіць Кастусь Каліноўскі.
– Каго любіш? – пытаю. І чую ў адказ:
– Люблю Польшчу.

* * *

Цалуе пэндзаль дотыкам ледзь чутным
Бялюткую, цнатлівую паперу.
Пакінутыя знакі пацалункаў
Народзяць гожае дзіця –
Мастацкі твор.



* * *

На рынку блашыным куплю
нешта з мінулых часоў,
што будзе радаваць вока,
цешыць і вярэдзіць думкі.
Буду рады я, набыўшы нешта бясцэннае.
Будзе рады той, хто збыў нешта непатрэбнае.

* * *

Пах цёплага з-пад праса ільнянога абруса,
вытканага рукамі маці, выклікаў шчымлівыя,
балюча-салодкія ўспаміны дзяцінства і яшчэ
нешта невытлумачальнае.

ФОТА АРХІЎ







**Базыль Камароў і Міхась Булавацкі.**
г. Магілёў, Савецкая плошча. 12 ліпеня 2010 г.
*Фотаздымкі Надзеі Бацілавай.*

*Міхась БУЛАВАЦКІ*

## ГОРАД МАСТАКА

*Базылю*

Мастак горад велічны намаляваў
з каронай касцёлаў і цэркваў
на месцы, дзе некалі час віраваў
і Перун маланкі растрэсваў,
дзе дзвынкалі стрэлы, шукаючы цэль
і ядры ўгрызаліся ў сцены,
кроў з пылам і дымам, як чорны кісель,
сцякала па вуліцах-венах.
Мінала вайна і ўздымаўся народ,
не выбіты чорнай навалай,
якога не ўсмерціў ні мор, ні няўрод,
якога бяда не зламала.
І з ім узднымаліся сцены, дамы
і храмы да сіняга неба…
Ды зноў наляталі захопнікаў цьмы
і храмы мяшаліся з глебай…
І так – з веку ў век, за гадамі гады –
знікалі і людзі, і храмы.
І горад марнеў, быццам кіт без вады,
быў блізкім канец яго драмы.

У горадзе гэтым і жыў той Мастак,
Мастак, улюбёны ў свой горад.
І ён не хацеў пагадзіцца ніяк,
што горад знікае ў прасторы.
І ён аднаўляў на палотнах сваіх
і школы, і мост, і тэатры,
і храмы, і ратушу, і караблі
у порце з замежным таварам.
Дамы ён рамеснікамі насяляў,
а ратушу – людам службовым.
Званар на званах так бадзёра іграў, –
хто чуў, той рабіўся здаровым.
І людзі глядзелі на горад, – на свой, –
і людзі ўздымалі галовы.
І ў душы ўсялялася вера, з якой
вярталіся розум і мова.
І людзі ўглядаліся ў стромкасць царквы,
у вокны дамоў самавітых, –
і бачылі людзі, што горад жывы,
што войнамі ён не забіты,
што вось Спірыдон дапісаў свой “Буквар”,
і меч апусціў Левановіч;
Машэка, Гартынскі ды мужны вяяр
у парку пра вечнасць гамоняць.
Усё аднавіў і усіх ажывіў
Мастак на шырокіх палотнах.
Падмешваў да фарбы ён кроплі крыві,
што ў жыцці вярталі самотных.
І люд, памаліўшыся Богу ў царкве
ці ўславіўшы Бога ў касцёле,
і сёння кахае, стварае й жыве…
Дай Бог яму міру і волі!

Як горад завецца і дзе ён ляжыць –
блукаюць паданні па свеце.
У горадзе гэтым мне хочацца жыць
І хочацца – тут – памерці…





# Падараваныя нябёсамі радкі



Вядучыя Ірына Цінякова і Алена Апідовіч

18 ліпеня 2013 г. магілёўская цэнтральная бібліятэка імя К.Маркса ў садружнасці з магілёўскімі аддзяленнямі ГА "Рускае грамадства" і ГА "Саюз беларускіх пісьменнікаў" правяла вечарыну "Падараваныя нябёсамі радкі...", прысвечаную 80-годдзю з дня нараджэння паэта Яўгенія Еўтушэнкі.

Быў змястоўны і цікавы аповед пра жыццёвыя шляхі паэта, і асобна адзначалася, што па матчынай лініі Еўтушэнка паходзіць з Гомельшчыны. Гучалі вершы юбіляра ў выкананні мясцовых паэтаў Марыны Сліўко, Наталлі Кажэўнікавай і Леаніда Іскрова. Старшыня Магілёўскай ветэранскай арганізацыі Фёдар Мацькоў расказаў пра свае асабістыя сустрэчы з Яўгеніем Еўтушэнкам.

У вечарыне прыняў удзел старшыня Магілёўскага аддзялення СБП Мікола Яцкоў, які падзяліўся сваімі ўражаннямі ад паэзіі нашага знакамітага земляка і прапанаваў слухачам свой цыкл песень на яго вершы. Песні былі спецыяльна напісаныя да юбілейнай даты і прагучалі ўпершыню.

***Аліна САВІЦКАЯ.***

Фотаздымкі М.Яцкова і А.Яцковай
http://www.intermonitor.ru





Леанід Іскроў



Наталля Кажэўнікава



Фёдар Мацькоў



Марына Сліўко



Мікола Яцкоў

## ФЁДАР І БЭЛА





Старшыня Магілёўскага гарадскога Савета ветэранаў Фёдар Рыгоравіч Мацькоў – чалавек унікальны. За ягонымі шырокімі плячамі вялікі жыццёвы шлях, багаты на падзеі і сустрэчы. У яго вельмі добрая памяць і ён цудоўны апавядальнік. Вось і на гэтай вечарыне прысутныя пачулі ад Фёдара Мацькова аповед пра ягоную колішнюю сустрэчу ў Маскве з Яўгенам Еўтушэнкам, Ігарам Шклярэўскім і Бэлай Ахмадулінай. І праз красамоўныя падрабязнасці амаль наяве паўстала тая маскоўская кватэра, дзе літаратурны "бамонд" спачатку бавіў час дзіўнай гульнёй у маўклівыя глядзелкі адзін на аднаго, а потым пачаліся танцы – і наш Фёдар таньчыў з загадкавай Бэлай. І хвалюючыя падрабязнасці таго моманту адразу пакаляліся адлюстраваннем у чатыры радкі, якія з'явіліся ў маёй галаве – вядома ж, не без уплыву еўтушэнкаўскай інтанацыі:

*Сегодня я напрягся слухом, -*
*Ты глянь, какая загогулина! -*
*Матькова Фёдора за ухо*
*Кусала Белла Ахмадулина.*

І ўсе мы паверылі, што так і было. А які сэнс Фёдару Рыгоравічу нешта прыдумляць ды размалёўваць? Ведай нашых!

***Мікола ЯЦКОЎ.***

Фотаздымкі "Веснік Магілёва"
http://www.itar-tass.com/



Гледачы прымалі самы актыўны ўдзел у вечарыне

Хороший повод Пятница, 26 июля 2013

### «Дарованные небесами строки»



– так называлась литературно-музыкальная композиция, посвященная 80-летию со дня рождения известного русского поэта Евгения Евтушенко, которую подготовили и провели Могилевское городское отделение Республиканского общественного объединения «Русское общество» и центральная городская библиотека им.К.Маркса. Сотрудниками ...

... вичем песни на стихотворение «Завещание Симонова».

На вечере были озвучены интересные факты из жизни Е.Евтушенко: он владеет английским, испанским, итальянским и французским языками; ... поэт и писатель ...ндр Пушкин; Евгений ...о считает себя че... мира; он почетный ...н города Зима, а в ...Нью-Орлеана, Атлан...

Могилевский композитор Николай Яцков специально к встрече написал музыку к нескольким стихотворениям Евгения Евтушенко («Старый друг», «А снег повалится, повалится...»). До глубины души всех тронуло исполнение Николаем Адамовичем песни на стихотворение «Завещание Симонова».





ВЕСНІК МАГІЛЁВА СРЕДА. 24 июля 2013 года Цена 1300 руб. Издается с января 1990 г. www.vestnikmogileva.by

Творческий вечер

### Подтверждаем звание культурной столицы

**Могилев наращивает обороты культурной столицы стран СНГ. За последние 2-3 месяца проведено несколько крупных, значимых мероприятий: фестиваль «Магутны Божа», выставка картин народного художника СССР Александра Шилова в музее имени Масленикова, выступление народного артиста СССР Василия Ланового в областном дворце культуры, Арт-проект «Zabor» - выставка на открытом воздухе картин народного художника Беларуси Нестерова и ряд других.**

Елена Сергеевна Опидович, председатель МГО РОО «Русское об...

На вечере под аплодисменты выступили Ирина Тинякова, Наталья Кожевникова, Борис Воронин, автор этих строк, а могилевский композитор Николай Яцков исполнил несколько собственных песен на стихи Е. Евтушенко.

В день рождения А.С. Пушкина Елена Опидович совместно с Ириной Сивенковой - заведующей библиотекой университета продовольствия - провели научно-практическую конференцию по его творчеству. Участники пушкинского конкурса были отмечены дипломами.

**Леонид ИСКРОВ**





Альманах Посольства Российской Федерации в Республике Беларусь июль 2013 года

Юбилей поэта отметили и в Белоруссии. «Дарованные небесами строки» – так называлась литературно-музыкальная композиция, посвященная этому событию, которую подготовили и провели 18 июля 2013 года Могилевское городское отделение Республиканского общественного объединения «Русское общество» и центральная городская библиотека им.К.Маркса. На вечере присутствовали активисты общественной организации российских соотечественников, представители Могилевского городского Совета ветеранов, литературного объединения «Ветеран», литературного клуба «Магистраль», клуба по интересам «Собеседник», учащаяся молодежь и др. Сотрудниками библиотеки были подготовлены тематическая книжная выставка и презентация. Звучали песни на стихи Е.Евтушенко, стихи в авторском исполнении (в записи) и в исполнении организаторов и участников вечера Е.Опидович, И.Тиняковой, Л.Искрова, М.Сливко, Н.Кожевниковой, Б.Воронина, председателя городского Совета ветеранов Ф.Матькова, были показаны видеосюжеты из кинофильмов, озвучены интересные факты биографии поэта. Могилевский композитор Н.Яцков специально к встрече написал музыку к нескольким стихотворениям Евгения Евтушенко.

"ДНЯПРОЎСКАЯ СТРОМА"
Літаратурна-мастацкі і інфармацыйны бюлетэнь Магілёўскага абласнога аддзялення ГА "Саюз беларускіх пісьменнікаў".
Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі.

Адказны за выпуск - Мікалай Адамавіч ЯЦКОЎ
Адрас: 213107 Магілёўскі раён, в.Брылі, вул. Юбілейная 6 - 7
тэл. маб. +375293732886
e-mail: mikolabryl@gmail.com

Матэрыялы друкуюцца на мове аўтараў.
Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў.
Звярстана і надрукавана на ўласным абсталяванні.
Падрыхтавана да друку 31.07.2013 г.. 21.00.
Наклад 299 асобнікаў. Распаўсюджваецца бясплатна.





«Дняпроўская строма» заўсёды на www.kamunikat.org